**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 36 (857) 8 верасня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



ISSN 2077-8023







Бруkаванка паміж Празарокамі і Зябкамі – адрэзак старажытнай дарогі з Полацка на Вільню, які здаўна насіў назоў Альгердаў Шлях. На здымку: раварысты вандроўнікі на маршруце Бягомль-Полацк. *Фота Ул. Скрабатуна.*

Віцебская вобласць

# Услед за ГЭС жыллё

■ Чэслаў Якубовіч.

**Беларуска-кітайскія адносіны развіваюцца зараз нават больш дынамічна і паспяхова, чым узаемасувязі з суседняй Расіяй.**

Сведчаннем гэтага стане ўзвядзенне ў Віцебскай вобласці з дапамогай кітайцаў адразу шасці жылых дамоў сацыяльнага тыпу. Да ўзвядзення першых двух з іх ужо прыступілі ў абласным цэнтры і ў Оршы. Сёння ў вобласці каля трох тысяч сем’яў маюць вострую патрэбу ў атрыманні такога жылля, а найбольш – сярод аршанцаў, дзе ў чарзе знаходзяцца 400 чалавек. Таму ў Оршы ў маі будучага года здадуць 108-кватэрную шматпавярхоўку, генпадрадчыкам стала 25-я кітайская карпарацыя. Супрацоўнічаць з кітайскімі партнёрамі будзе мясцовы будтрэст № 18, стане выкарыстоўваць на аб’екце і айчынныя будматэрыялы, а кітайцы выдаткавалі на яго бязвыплатна 7,4 млн. новых рублёў інвестыцый. На першым этапе ажыццяўлення праекта кітайскі бок дапаможа ўзвесці падобны жылы дом і ў Віцебску. Усяго ж партнёры з Паднябеснай перадаюць вобласці 110 млн. долараў на будаўніцтва сацыяльнага жылля. Ужо вырашана, што ў паўночным рэгіёне затым атрымаюць ключы ад кватэр зноў яшчэ сем’і віцяблян. Па адным такім доме ўзвядуць таксама ў Полацку, Наваполацку і Лепелі. З тэхніка-эканамічнай дапамогай Кітая ўсяго ў Беларусі будзе пабудавана 16 сацыяльных дамоў. Гэта не першы прыклад плённага супрацоўніцтва дзвюх краін, бо кітайцы дапамаглі правесці мадэрнізацыю Лукомльскай ГРЭС. Яны заканчваюць узвядзенне Віцебскай ГЭС і размеркавальнай падстанцыі ў Пастаўскім раёне, якая прыме ток Беларускай АЭС.

Віцебская вобласць

# Талент, падмацаваны працай

■ Станіслаў Раманчук.

**На нядаўняй Алімпіядзе ў Бразіліі пры неверагодна вострай канкурэнцыі няпроста даставаліся беларусам перамогі, але тым большая каштоўнасць заваяваных медалёў.**

У навейшай суверэннай гісторыі Віцебшчына ўвогуле не мела ўзнагарод вышэйшай пробы. Апошняе золата прывёз віцебскі баксёр Вячаслаў Яноўскі з гульняў у Сеуле ў далёкім 1998 годзе. Аб гэтым гаварылася днямі на ўрачыстай сустрэчы ў мясцовай СДЮШАР № 1 з нацыянальным героем, алімпійскім чэмпіёнам Уладзіславам Ганчаровым. У гэту спартшколу яго прынялі 14 гадоў назад у групу батуцістаў, калі малога хлопчыка адлічылі з секцыі гімнастыкі, як нібыта “неперспектыўнага”. Але ягоны трэнер Вольга Власава з гэтым не пагадзілася і вырасціла спартсмена сусветнага ўзроўню. Чэмпіёна сустрэлі сотні людзей, сярод якіх шмат было дзяцей з кветкамі, рознакаляровымі шарыкамі, каляровымі фотамі атлета і самаробнымі плакатамі. Сустрэча атрымалася вельмі шчырай, цёплай і хвалюючай, павіншавалі атлета з трыумфам многія, і сярод іх яго былы класны кіраўнік у гімназіі № 1. У ёй, дарэчы, будучы алімпійскі чэмпіён, вучыўся выдатна, а яшчэ неймаверна ўпарта працаваў на трэніроўках і ішоў да сваёй мэты. Уладзіславу ў Рыа-дэ-Жанейра ўдалося перамагчы непераможных дагэтуль у гэтым відзе спорту кітайцаў. Шматлікіх прысутных на сустрэчы ўразіла, які прыемны ў зносінах і сціплы гэты хлопец. Чэмпіён з усімі размаўляў, адказваў на пытанні, цярпліва раздаваў аўтографы, фатаграфаваўся, а яшчэ шчыра радаваўся сустрэчы з землякамі. Яму “зорная хвароба” не пагражае ў адрозненне ад многіх іншых “псеўдазорак” эстрады і спорту.

Пастаўскі раён

# Недарэчна гінуць людзі

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у нашай краіне прыбавілася розных няшчасных выпадкаў з трагічнымі наступствамі для людзей.**

Сёлета ў высакосны год вырасла колькасць такіх сумных здарэнняў і ў Пастаўскім раёне, дзе напрыканцы лета ўжо 10 мясцовых жыхароў загінулі ў выніку аварый на дарогах і на пажарах. Дагэтуль у рэгіёне такіх ахвяр было няшмат, нават на афганскай вайне за 10 гадоў ваявала адсюль каля двухсот хлопцаў, а на радзіму прыйшлі тры цынкавыя труны. У гэтым годзе гінуць, што самае страшнае, пераважна яшчэ маладыя людзі працаздольнага ўзросту. У рэанімацыі райбальніцы днямі памёр 30-гадовы жыхар райцэнтра, які напярэдадні пасля апоўначы патрапіў пад трактар на дарозе ў прыгараднай вёсцы Шыркі. Чэрапна-мазгавыя траўмы забралі жыццё пастаўчаніна, а ў адносінах механізатара сельгаспрадпрыемства “Сцяг Перамогі-агра” ўзбуджана крымінальная справа. Услед за гэтым трагічна загінуў на дарозе дамоў мясцовы 33-гадовы байкер, які вяртаўся з падарожжа па маршруце Адэса-Малдова-Львоў і праехаў на крутым матацыкле звыш 3-х тысяч км. У гарпасёлку Варапаева ў пачатку лета пахавалі старшакласніка, а яшчэ двое мясцовых юнакоў атрымалі раненні пасля наезду на іх п’янага кіроўцы. Але праз некалькі месяцаў там жа такі гора-вадзіцель, пазбаўлены правоў 90 дзён назад, збіў днямі веласіпедыста і за свой учынак пойдзе пад суд па ўзбуджанай крымінальнай справе. Ужо пяцёра жыхароў раёна загінулі ў агні пажараў, а два жыцці абарваліся днём у прыгараднай вёсцы Шурпікі. Пасля тушэння пажару ў хаце са згарэўшымі дахам і столлю знайшлі трупы 9-гадовай дзяўчынкі і 45-гадовага знаёмага яе бацькі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 08.09.16 | | | | Пятніца 09.09.16 | | | | Субота 10.09.16 | | | | Нядзеля 11.09.16 | | | | Пан. 12.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +16 | +20 | +16 | +10 | +12 | +17 | +13 | +10 | +13 | +18 | +14 | +11 | +13 | +18 | +13 | +9 | +11 | +18 |
| Ціск | 748 | 747 | 747 | 747 | 748 | 750 | 751 | 752 | 752 | 753 | 752 | 752 | 752 | 752 | 751 | 750 | 750 | 750 | 750 |
| Вецер м/сек | 4 З | 5 З | 5 Пн-З | 3 Пн-З | 1 Пн-У | 1 У | 2 У | 3 Пд-У | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд-У | 5 Пд-У | 4 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 5 Пд-У | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 3 Пд |
| Вільготнасць | 91 | 99 | 70 | 77 | 96 | 89 | 60 | 86 | 93 | 84 | 57 | 73 | 91 | 80 | 59 | 75 | 93 | 84 | 59 |

# Аб самым надзённым

## МІЖНАРОДНАЕ ПРЫЗНАННЕ ВЫНІКАЎ ЧАРГОВЫХ ПАРЛАМЕНЦКІХ ВЫБАРАЎ ЗАРАЗ ВАЖНА ДЛЯ БЕЛАРУСІ З-ЗА СТАГНАЦЫІ ЯЕ ЭКАНОМІКІ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Хоць місія ПАСЕ заявіла, што наша краіна не выканала яе ключавыя рэкамендацыі па выбарах, але прызнала пэўныя зрухі па паляпшэнні выбарчага працэсу. Улады, сапраўды, сталі больш лаяльна адносіцца да працэдур вылучэння і рэгістрацыі саміх кандыдатаў.**

Многія беларусы ўжо і забыліся, а маладзейшыя ўвогуле і не памятаюць, калі ў нашай краіне дзейнічаў уплывовы і баявы орган заканадаўчай улады, які называўся ў мінулым Вярхоўным Саветам. З яго сцен патрапіў на вяршыню палітычнага жыцця шклоўскі тады дэпутат А. Лукашэнка, які застаецца нязменным беларускім лідарам ужо 23-ці год запар. Аднак амаль 20 гадоў назад глыбокай восенню 1996 года ў Беларусі адбыўся сумна вядомы рэферэндум, перадзел улады, і той парламент быў распушчаны.

Замест яго сфарміравалі з ліку лаяльных і паслухмяных уладам дэпутатаў Нацыянальны сход з дзвюх палат, падобных знешне, як у Францыі. Ніжнюю з іх назвалі Палатай Прадстаўнікоў, куды ўваходзяць цяпер 110 выбраннікаў. Яна абнавіцца кардынальна зусім хутка, бо на 11 верасня прызначаны новыя выбары, а туды на новы тэрмін будуць балатавацца толькі 28 дзеючых парламентарыяў папярэдняга склікання. Роўна за месяц да правядзення выбараў завяршылася рэгістрацыя новых прэтэндэнтаў на мандат, і быў зарэгістраваны 521 кандыдат у дэпутаты. Потым да іх дабавіўся яшчэ адзін на Магілёўшчыне пасля пададзенай скаргі на неабгрунтаваную адмову ў рэгістрацыі.

Магчыма, гэта і правільна, бо назваць гэты орган эфектыўным язык на паварочваецца. За папярэднія 4 гады сваёй працы дэпутаты 5-га склікання толькі тры разы скарысталіся сваім правам заканадаўчай ініцыятывы, распрацавалі і прынялі самі патрэбныя заканадаўчыя акты. У астатнім у Авальнай зале яны, як правіла, зацвярджалі законы, прадстаўленыя выканаўчай уладай, а многія дэпутаты з высокай зарплатай засядаюць у гэтай Палаце даўно ( з папярэдніх двух скліканняў у парламенце засталіся адпаведна 30 і 21 былы дэпутат).

Уплыў дэпутацкага корпуса на развіццё падзей у краіне, на жаль, мінімальны, а вось, што жыццё большасці беларусаў апошнім часам стала пагаршацца, адчулі ўжо ўсе. Беларуская эканоміка знаходзіцца ў глыбокай рэцэсіі, з-за чаго сёлета ў першым паўгоддзі краіна зарабіла на 3 млрд. долараў валютнай выручкі меней, чым на той момант летась, а рэальныя даходы насельніцтва зменшыліся яшчэ на 7 %. Цэны ж не стаялі на месцы, а па краіне вырасла значна колькасць стратных прадпрыемстваў, у судах болей сталі разглядаць справы аб банкруцтве. На такім вось сумным фоне і праходзіць выбарчая кампанія, а кіраўніцтва Беларусі на гэты раз робіць многае, каб дабіцца міжнароднага прызнання гэтых выбараў і самога новага складу парламента.

Хоць місія ПАСЕ заявіла, што наша краіна не выканала яе ключавыя рэкамендацыі па выбарах, але прызнала пэўныя зрухі па паляпшэнні выбарчага працэсу. Улады, сапраўды, сталі больш лаяльна адносіцца да працэдур вылучэння і рэгістрацыі саміх кандыдатаў. У нас на Віцебшчыне ніколі раней такога не было, каб па 14 выбарчых акругах адбыліся акрамя перадвыбарных выступленняў па радыё і тэлебачанні і 14 тэледэбатаў, на некаторых з удзелам нават 6 кандыдатаў у студыі. ЦВК зняў з эфіру, праўда, адыёзнае тэлевыступленне аднаго кандыдата за заклікі да легалізацыі марыхуаны. Увогуле за празрыстасцю гэтай выбарчай кампаніі ў нас вельмі пільна сачылі ў многіх еўрапейскіх краінах.

Прадстаўнікі АБСЕ таксама не хавалі, што гэтыя беларускія выбары для іх важней мінулагодніх прэзідэнцкіх. Ад іх вынікаў будзе залежыць, ці не пагоршыцца імідж Беларусі і ці прадоўжыцца далейшае паляпшэнне нашых адносін з дзяржавамі Захаду, а таксама тое, ці зможа наша краіна атрымаць адтуль вельмі патрэбныя замежныя крэдыты. Ёсць спадзяванне, што на гэты раз ацэнка выбараў замежнымі наглядальнікамі будзе лепшай, а палітолагі робяць прагнозы, што новы беларускі парламент нарэшце атрымае замежнае прызнанне ў заходніх калег, а не толькі на прасторах СНД.

З іншага боку многія незалежныя СМІ загадзя зрабілі персанальныя прагнозы, што туды пройдуць пераважна кандыдаты ад улады. Альтэрнатыва сярод дэпутатаў, нейкае падабенства на апазіцыю таксама ў Палаце прадстаўнікоў можа з’явіцца, але верагоднасць гэтага ў спецыфічных беларускіх умовах працяглага датэрміновага галасавання (у глыбінцы так галасуе трэць, а то і палова выбаршчыкаў) невысокая. Улады, канешне, непакоіліся, каб у ходзе кампаніі не адбыліся нейкія акцыі пратэсту супраць пагаршэння ўзроўню жыцця і збяднення людзей. Аднак у нас да гэтага справы не дойдуць, народ застрашаны, а на вуліцы людзі могуць выйсці тады, калі перастануць плаціць заробкі і будуць доўгія затрымкі выплат пенсій. Пакуль гэтага няма, а сярод насельніцтва выжывае кожны, як толькі можа.

## Дзень за днём

**У першым паўгоддзі рэальныя даходы беларусаў знізіліся на 7 %. Збядненне насельніцтва ВУП Беларусі прадаўжаецца ўжо паўтара года. Айчынная эканоміка адчула рэзкае падзенне замежных інвестыцый. Напрыканцы верасня А. Лукашэнка запланаваў наведаць з дзяржаўным візітам Кітай. Беларуская армія атрымала грозную зброю, найноўшыя рэактыўныя сістэмы залпавага агню. Сусветныя цэны на нафту перавысілі 50 долараў. Па краіне пачаліся паўсюдна восеньскія кірмашы. Беларусы выступілі на Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанейра слабей, чым раней, адкаціліся на 40-е месца ў свеце ў медальным заліку.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Канцлер А. Меркель заявіла, што яна не бачыць падстаў для адмены санкцый супраць Расіі, якая выклікала крызіс, анексавала Крым, падтрымлівае сепаратыстаў.

**Украіна.** Місія АБСЕ зафіксавала з паветра на акупіраванай "ЛНР" тэрыторыі пасёлка Мівусінск забароненыя Мінскімі пагадненнямі 47 ракетных сістэм залпавага агню.

**Іран.** Па патрабаванні МЗС расійская ваенная авіяцыя пакінула авіябазы краіны, гэта пагадненне з Масквой павінна было заставацца сакрэтным, але рускія сталі хваліцца.

**Турцыя**. Расія ўзмацніла ціск на ўрад краіны, каб атрымаць допуск да авіябазы Інджырлік, якой карыстаюцца амерыканскія ВПС, пасля авіяўдараў па Сірыі з аэрадрома ў Іране.

**Расія.** Падчас тэледэбатаў перад выбарамі на тэлеканале "Россия-1" прадстаўнік партыі "Парнас" В. Мальцаў заклікаў да імпічменту Пуціна, "пасадзіць цара на кол".

**Індыя.** Урад краіны адхіліў прапановы Пакістана правесці перамовы па праблемах індыйскіх штатаў Кашмір і Джамма, заселеных пераважна мусульманамі.

**Украіна.** Ваенная разведка папярэдзіла аб магчымасці новых трагедый у небе над Данбасам пасля перадыслакацыі Расіяй туды зенітна-ракетнага дывізіёна 60-й АМБ РФ.

**Сірыя.** Кадры з выжыўшым пасля расійскага авіяўдару акрываўленым 5-гадовым хлопчыкам з Алеппа выклікалі хвалю жаху і абурэння ва ўсім свеце, там было шмат ахвяр.

**Турцыя.** У выніку выбуху ля паліцэйскага ўчастка горада Дзіярбакір правінцыі Ван аўтамабіля з выбуховымі рэчывамі пацярпела больш 70 чалавек, з іх – 20 паліцэйскіх.

**Расія.** Эксперты Вышэйшай школы эканомікі папярэдзілі, што пры цяперашняй эканамічнай палітыцы Пуціна эканоміка РФ будзе далей загніваць, а не развівацца.

**Украіна.** Кампанія "Нафтагаз" адмовілася плаціць "Газпраму" за пастаўкі газу ў непадкантрольную краіне частку Данбаса, прыгразіла судом за зрыў транзіту газу ў ЕС.

**Таджыкістан.** Урад краіны не пагадзіўся з папрокамі МЗС Расіі ў "нацыяналізме" з нагоды перайменаванняў савецкіх назваў вуліц і гарадоў на спрадвечныя таджыкскія.

**Расія.** "Ісламская дзяржава" ўзяла на сябе адказнасць за нападзенне двух маладых чачэнцаў на пост ДПС пад Масквой, дзе забітыя злачынцы паранілі двух паліцэйскіх.

**ЗША.** У Свята-Мікалаеўскім саборы Нью-Йорка прайшла паніхіда па памерламу рускаму скульптару Э Невядомаму, яго пахавалі на могілках побач з яго прасторным асабняком.

**Бразілія.** Пасля Алімпіяды-2016 у Рыа-дэ-Жанейра адзіная руская лёгкаатлетка, удзельніца Гульняў Ю. Клішына адмовілася вяртацца з ЗША жыць і трэніравацца ў Расіі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Бяроза.** Амаль 400 чалавек прымусілі звольніцца з абутковага СП "Белкельме", пасля яго ліквідацыі холдынг "Марка" адкрые замест яго сваю фабрыку спартыўнага абутку.

**Мінск.** Новы апостальскі нунцый Ватыкана, архіепіскап Габар Пінтар пацвердзіў, што Папа Рымскі Францыск сказаў яму, што адшукае магчымасць для візіту ў Беларусь.

**Дзяржынск.** Міліцыя затрымала былога главу раёна У. Ткачова, які забіў 44 ударамі нажа сваю 59-гадовую жонку, яна кінула дэспата-мужа з вельмі жорсткім характарам.

**Гродна.** Праз 9 месяцаў зноў аднавіўся штодзённы рух пасажырскіх цягнікоў па маршруце Гродна-Беласток-Варшава-Кракаў з вагонамі купэйнага тыпу з прыпынкам у Кузніцы.

**Мінск.** Кандыдат у дэпутаты, адзін з лідараў кампаніі "Гавары праўду" А. Дзмітрыеў заявіў, што ад вынікаў выбараў залежыць, ці атрымае Беларусь крэдыты на Захадзе.

**Салігорск.** З-за пагаршэння сітуацыі на сусветным рынку экспарт Беларускай калійнай кампаніі ў І-м паўгоддзі ўпаў на 22 % да 3,8 млн. тон, але чакаецца рост адгрузак.

**Мінск.** Галоўны рэдактар "Прессбола" С. Кайко заявіў, што Беларусь здае свае пазіцыі ў сусветным спорце, губляе ўжо цэлыя віды, як спартыўную гімнастыку і дзюдо.

**Брагін.** Кампанія Velcom пабудавала і запусціла ў эксплуатацыю паблізу райцэнтра буйнейшую ў Беларусі сонечную электрастанцыю 18,4 МВт коштам 24 млн. еўра.

**Клецк.** Ноччу на 412-м км дарогі Крычаў-Івацэвічы 30-гадовы вадзіцель лесавоза не заўважыў табун коней і ўрэзаўся ў іх, у выніку ДТЗ загінула 7 калгасных жывёлін.

**Рэчыца.** На продаж праз аўкцыён выставілі 16 будынкаў і 11 пабудоў ААТ "Рэчыцапіва", яго лініі разліва піва і квасу кампанія Heineken перанесла на свой піўзавод у Бабруйску.

**Гомель.** Пасля звальнення са скандалам былы дырэктар мясцовай швейнай фабрыкі "8 Марта" ўзначаліў буйны швейны камбінат "Чэксіл" ва Украіне, які працуе на яе армію.

**Мінск.** На сваім працоўным месцы спецслужбы затрымалі дырэктара гімназіі № 4 Ю. Бандарэнку, якому было перададзена 500 мечаных долараў хабару ў якасці "падзякі".

**Мазыр.** Пасля моцных дажджоў у горадзе зноў абрушыўся ўніз высокі схіл часткі вуліцы на тэрыторыі вопытнага лясгаса, людзі не пацярпелі, але на ёй не стала асфальту.

**Мінск.** Мінчане, якія адпачылі летам у Крыме, расказалі сайту TUT. BY, што цэны там даражэй за беларускія, сервіс ніякі, за такія грошы танней правесці водпуск у Турцыі.

**Пінск.** З міжнароднага юнацкага футбольнага турніру з сорамам выгналі каманду з Масквы, якая разбіла прэміяльны Кубак, абазвала беларускіх сапернікаў "колхозниками".

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Прафсаюзы: каб атрымаць падвышаны дапаможнік па беспрацоўі, будзе дастаткова аднаго года стажу




■FINANCE.TUT.BY

**Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі дамаглася змены некалькіх нормаў у праекце ўказа прэзідэнта «Аб дадатковых мерах па забеспячэнні сацыяльнай падтрымкі некаторых катэгорый беспрацоўных».**

Цяпер на перараздзел дапаможнікаў могуць разлічваць і тыя, хто пачне яго атрымліваць да ўступлення ў сілу дакумента. Акрамя таго, для права на падвышаны дапаможнік будзе дастаткова 1 года страхавога стажу.

Праект нарматыўна-прававога акта быў падрыхтаваны Мінпрацы летам гэтага года. У дакуменце прадугледжана дыферэнцыяванае павышэнне дапамогі, гэта значыць у залежнасці ад прычын звальнення і працягласці страхавога стажу. Самы вялікі дапаможнік запланаваны для беспрацоўных, якія трапілі пад скарачэнні колькасці або штату работнікаў, ліквідацыю прадпрыемства. Для іх дапамогу па беспрацоўі прапануюць павялічыць да 100% бюджэту пражытачнага мінімуму (цяпер ён роўны 175 рублям 50 капейкам).

«Нам удалося дамагчыся ўключэння ў праект указа нормы аб перараздзелу памеру дапамогі для тых, каму яна была прызначана да ўступлення дакумента ў сілу», - заявілі FINANCE. TUT.BY ў прэс-службе федэрацыі.

ФПБ таксама змякчыла патрабаванні па наяўнасці страхавога стажу (тэрмін, на працягу якога выплачваліся ўзносы ў Фонд сацыяльнай абароны). «Першапачаткова праектам прадугледжвалася, што для прызначэння дапамог па беспрацоўі ў павышаным памеры страхавы стаж павінен складаць не менш за два гады з апошніх трох. ФПБ дамаглася зніжэння гэтага паказчыка да аднаго года з апошніх двух гадоў».

Дарэчы, федэрацыя таксама прапаноўвала максімальна наблізіць да БПМ памеры дапамог і стыпендый па беспрацоўі для тых, хто быў звольнены па ўважлівых прычынах, не звязаных са скарачэннем колькасці і штату работнікаў. «На жаль, гэтая прапанова не знайшла адлюстраванне ў праекце ўказу», - паведамілі ў прэс-службе.

Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі ў Беларусі ў чэрвені склаў 26,88 рублёў. Гэта ўсяго толькі 15,3% ад БПМ.

Нагадаем, спецыялісты Мінпрацы таксама прадумваюць, як «укараніць страхаванне па беспрацоўі». У ведамстве маюць намер да 2017 года распрацаваць праект змяненняў і накіраваць яго ва ўрад.

- Калі чалавек працаваў і плаціў страхавыя ўзносы, то ў выніку страты працы, вядома, па ўважлівых прычынах, якія не залежаць ад чалавека, пэўны час ён будзе мець права на атрыманне дапамогі па беспрацоўі, якая б па сусветным стандартам забяспечыла кампенсацыю страчанага заробку ў памеры да 70%, - тлумачыць Мінпрацы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На пазачарговай сесіі абласнога Савета дэпутатаў вырашылі зменшыць перадаваемыя з бюджэту вобласці дадацыі бюджэтам гарадоў і раёнаў Прыдзвіння.

**Полацк.** У ліку яшчэ чатырох айчынных прадпрыемстваў Рассельгаснагляд забараніў пастаўкі прадукцыі і з ААТ "Полацкі малочны камбінат" з-за яго сертыфікатаў якасці.

**Лёзна.** Супрацоўнікі ФСБ Расіі выявілі на граніцы адрамантаваную прасёлачную дарогу, па якой кантрабандна ўвозіліся з Беларусі розныя санкцыйныя тавары, затрымалі 9 фур.

**Шуміліна**. Пракурор раёна распачаў крымінальную справу супраць першага намесніка старшыні райвыканкама за перавышэнне ўлады, які незаконна набыў жыллё сыну.

**Віцебск.** Гарадскія ўлады прысвоілі ганаровае званне ганаровых грамадзян Віцебска чэмпіёну Алімпіяды батуцісту Уладзіславу Ганчарову і яго трэнеру Вользе Власавай.

**Орша.** Падчас рэканструкцыі старэйшага цэха льнокамбіната будаўнікі знайшлі амаль 2 тысячы выбухованебяспечных прадметаў часоў вайны, іх знішчылі сапёры на палігоне.

**Чашнікі.** Побач з гарадскім Домам культуры ўбралі старыя аварыйныя дрэвы, пачалі ўкладваць тратуарную плітку на плошчы, дзе па суседстве з'явіцца новы парк.

**Віцебск.** Пры праверцы фірменнага магазіна і кафэ "Каравай Прыдзвіння", міні-кафэ "Князь Альгерд" Дзяржкантроль выявіў пратэрмінаваныя прадукты, недавесы страў.

**Мёры.** За пагрозу забойства дзядзькі за адмову аддаць дапамогу на пахаванне суд пакараў годам турмы 30 гадовага мужчыну, яго жонка і знаёмы атрымалі па 1 году "хіміі".

**Глыбокае.** У мястэчку Празарокі ўрачыста адзначылі 155-ю гадавіну з Дня нараджэння славутага земляка, заснавальніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага.

**Гарадок.** На пляжы возера Сосны ноччу з палаткі адпачываючага з кампаніі траіх віцяблян укралі злодзеі металашукальнік і нібыта яго сярэбраную лапату.

**Паставы.** Урайбальніцы памёр 30-гадовы жыхар райцэнтра пасля наезду на яго а першай гадзіне ночы ў прыгараднай вёсцы Шыркі трактара мясцовай гаспадаркі "Сцяг Перамогі".

**Лепель.** У міжнародным фестывалі міфалогіі "У гасцях у Лепельскага Цмока" ўпершыню ўдзельнічалі баскетбалісты мацнейшага беларускага сталічнага клуба "Цмокі".

**Полацк.** Пад вечар ля вёскі Рудня на дарозе на Міёры кіроўца Audi не прапусціў матацыкліста, у выніку ДТЗ загінула пасажырка матацыкла, вучаніца 11-га класа.

**Наваполацк.** НПЗ "Нафтан" пазбавіўся хакейнага клуба "Хімік-СКА", далейшае фінансаванне каманды плануецца ажыццяўляць за кошт сродкаў гарадскога бюджэту. *Служба інфармацыі "ВГ" ( па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

**Наш каляндар**

*Увосень 1936 года ў Глыбокім, па вуліцы Стэфана Баторыя, 1*, пачалося будаўніцтва гарадской бойні – пачатак гісторыі цяперашняга Глыбоцкага мясакамбіната.*

# З чаго пачаўся Глыбоцкі мясакамбінат?

■ Уладзімір Скрабатун

Глыбоцкі мясакамбінат – адно са старэйшых прамысловых прадпрыемстваў горада. Ён займае значную тэрыторыю горада, яго даўжыня пры вуліцы Маскоўскай, без малога, паўкіламетра. Тут працуюць жыхары нашага горада, прадпрымства – адно з асноўных буйных падаткаплацельшчыкаў у мясцовы бюджэт. Прадукцыя камбіната вядомая не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі.

Яго гісторыя бярэ пачатак з 1936 года, калі ў нашым горадзе, нарэшце, пачаўся эканамічны рост, калі ў горадзе перамаглі беспрацоўе.

Трэба сказаць, што ў 1930-я гг дробныя прыватныя бойні скаціны, якія яшчэ з царскіх часоў былі ў руках яўрэяў, ужо не адпавядалі ні новым эканамічным патрабаванням, ні новым тэхналогіям. Да таго ж, Глыбокае пасля Вільні ў Віленскім ваяводстве 2-ой Рэчы Паспалітай было, як не дзіўна, самым вялікім населеным пунктам, які ўжо з 1921 года насіў статус горада. Тагачасныя польскія ўлады планавалі далейшае развіццё горада. Гісторыя не мае ўмоўнага ладу – калі б, і як – аднак пад развіццё Глыбокага ўжо былі адведзеныя значныя тэрыторыі, якія даходзілі да Чачалёў, Харашкоў, Жураўнёва... Глыбокае мела прэтэнзіі на вялікі горад!

Наш рэгіён, перадусім, сельскагаспадарчы, асноўнымі галінамі было льнаводства і жывёлагадоўля. Тут можна згадаць аб вельмі паспяховым малочарскім кааператыве ў Плісе, прадукцыя якога ішла на экспарт. Ён складаўся з 823 членаў.

Паўстанне ў Глыбокім гарадской бойні скаціны было лагічным, прадыктаванае мясцовымі эканічнымі інтарэсамі. Важны фактар на карысць гэтага – наяўнасць у Глыбокім чыгункі.

Папулярная "абласная" газета "Kurjer Wileński" – значная крыніца інфармацыі аб жыцці нашага горада ў 1920-30-я гг, пісала:

**"Глыбокае апярэджвае Вільню!**

У Глыбокім прыступілі да далейшага будаўніцтва гарадской бойні на пляцы, які набыты гарадской управай праз Банк Краёвага Гаспадарства. Будаўніцтва бойні распачата ўвосень 1936 г.; кошты складаюць 160.000 зл(отых). Цяпер Фонд Працы прызначыў на будаўніцтва 66.000 зл. Бойня будзе пабудавана паводле найноўшай тэхнікі і будзе забяспечаная ў халадзільні, сушарні скур і лабараторыі перапрацоўкі крыві. Пры бойні будзе задзейнічаны рынак у прасторы 1,5 га".

З іншай публікацыі "Kurjera" мы даведваемся, што першапачатковыя кошты будаўніцтва былі перагледжаныя:

**"Гарадская бойня ў Глыбокім будзе каштаваць 200.000 злотых**

Кошты будаўніцтва гарадской бойні ў Глыбокім, налічаныя пачаткова на 150 тыс. зл., узраслі да 200 тыс. зл. Рост тлумачыцца сканчэннем будаўніцтва пры бойні – артэзіянскай свідравіны, лабараторыі, халадзільні і сушарні скур. Бойня – будуецца паводле патрабаванняў найноўшай тэхнікі на пляцы, які набыты праз нарадскую ўправу ад Банка Краёвага Гаспадарства".

"Kurjer Wileński" ад 13 студзеня 1938 года шырока асвятляў візіт на Віленшчыну Старшыні Рады Міністраў і міністра Унутраных Справаў генерала Феліцыяна Славой-Складкоўскага. Наведаў прэм'ер і Глыбокае і новапабудаваную гарадскую бойню:

"... У Глыбокім, цэнтры Дзісненскага павету пан прэм'ер выканаў чарговую інспекцыю новапабудаванай гарадской управай, пры дапамозе Фонду Працы, экспартнай бойні, дабраахвотнай пажарнай стражы, гмінай управы і камендатуры Дзяржаўнай Паліцыі. Затым наведаў гаспадарча-кравецкую школу, якой кіруюць СС Непакалянкі.

Нельга абмінуць і такую падзею, аб чым таксама пісаў "Kurjer Wileński", як будаўніцтва гарадской управай у непасрэднай блізкасці ад бойні – новай гарадской электроўні (электрастанцыі). Пад яе быў узведзены адмысловы мураваны будынак. Яна мусіла быць уведзеная ў дзеянне ў студзені 1939 года. Сюды – да электроўні і бойні – было праведзенае адгалінаванне чыгункі. Лакамабіль электроўні магутнасцю 125 конскіх сілаў мусіў працаваць на торфе, "радовішчы якога знаходзяцца ў граніцах горада". (Нагадаю, граніцы горада даходзілі аж да Чачалёў) Выкарыстанне торфу ў якасці паліва меркавала зніжэнняў кошту электраэнергіі. Да гэтага часу яе кошт складаў 87 грошаў за 1 кв/г. Кошт будаўніцтва электроўні і новага чыгуначнага адгалінавання названы ў 102.000 злотых.

Дарэчы, згадваецца і другая электроўня ў Глыбокім, якая была ў стане рамонту, пасля чаго агульная магутнасць дзвюх электроўняў мусіла быць 250 конскіх сілаў.

Можна сказаць, што з узвядзеннем гарадской бойні (у будучыні мясакамбіната) Глыбокае пачало сваё ўзыходжанне да значнага ў будучыні прамысловага цэнтра Віцебскай вобласці.

* Гэтая вуліца да сярэдзіны 1960-х – ад чыгуначнага пераезда ў бок Докшыцаў – мела назоў Розы Люксембург, затым аб'яднана з вуліцай Маскоўскай.

**Першыя згадкі аб будаўніцтве гарадской бойні ў Глыбокім у газеце "Kurjer Wileński" (з чаго і пачынаецца гісторыя Глыбоцкага мясакамбіната).**

## Глыбокае апярэджвае Вільню!

—):(—

**Głębokie dystansuje Wilno!**

W Głębokiem przystąpiono do dalszej budowy rzeźni miejskiej na placu, zakupionym przez zarząd miejski od Banku Gospodarstwa Krajowego. Budowę rzeźni rozpoczęto na jesieni 1936 r.; koszty wynoszą zł. 160.000. Obecnie Fundusz Pracy przeznaczył na budowę zł. 66.000. **Rzeźnia budowana będzie według nowoczesnej techniki i zaopatrzona będzie w chłodnie, suszarnie skór oraz laboratorjum przeróbki krwi.** Przy rzeźni będzie uruchomione targowisko o przestrzeni 1 1/2 ha.

## Гарадская бойня ў Глыбокім будзе каштаваць 200.000 злотых

**Rzeźnia miejska w Głębokiem będzie kosztowała 200.000 zł.**

Koszta budowy rzeźni miejskiej w Głębokiem, obliczane początkowo na 150 tys. zł., wzrosły do 200 tys. zł. Wzrost tłómaczy się koniecznością wybudowania przy rzeźni studni artezyjskiej, laboratorjum, chłodni i suszarni skór. Rzeźnia jest budowana według wymagań nowoczesnej techniki na placu zakupionym przez Zarząd Miejski od Banku Gospodarstwa Krajowego.



Старая частка Глыбоцкага мясакамбіната.


Новы адміністрацыйны корпус, будаўніцтва якога прыпала на часы распаду Савецкага Саюза.

# У Глыбокім скасавалі вуліцу Станіслава Манюшкі, а ў Мінску паставілі помнік

**У Мінску ля Ратушы ўрачыста адкрылі помнік Манюшку і Дуніну-Марцінкевічу.**

**Скульптурную кампазіцыю стваральнікам беларускай нацыянальнай класічнай оперы кампазітару Станіславу Манюшку і драматургу Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу ўсталявалі ў скверы каля ратушы на плошчы Свабоды. Аўтары скульптуры — Леў і Сяргей Гумілеўскія.**

■ Уладзімір Скрабатун

Да 1939 года ў Глыбокім існавала вуліца беларускага і польскага кампалітара Станіслава Манюшкі, які паходзіў з Убеля Ігуменскага павету (цяпер Чэрвенскага раёна Мінскай вобласці).

Станіслаў Манюшка – стваральнік нацыянальнай класічнай оперы, класік польскай і беларускай вакальнай лірыкі.

З малых гадоў будучы кампазітар адчуў хараство і прывабнасць беларускага фальклору, асабліва беларускай песні. Таму беларускі каларыт дамінуе амаль ва ўсіх яго творах, асабліва ранніх.




Кампазітар Станіслаў Манюшка (5 траўня 1819 — 4 чэрвеня 1872).

Новая ўлада, якая прыйшла ў Глыбокае пасля 17 верасня 1939 года, праўдападобна, не надта разбіралася ў беларуска-польскім пантэоне. І што ў гэтай асобе, як кампазітара, антысавецкага? Нічога! Аднак вуліцу перайменавалі ў Загарадную.

Можна было б сёння вярнуць гэтай вуліцы і гістарычную назву. Ну, якая яна ўжо Загарадная! Амаль цэнтр! Тым больш, што на ёй – усяго пяток дамоў і перайменаванне не пацягнула б вялікіх выдаткаў.

Дарэчы, як да 17 верасня 1939 года называлася вул. Народная, суседка Загараднай? Не ведаеце? Юзафа Захарыяша Бэма — палкаводца; польскага генерала, фельдмаршала турэцкай арміі, галоўнакамандуючага войск венгерскай рэвалюцыі 1848 года.

# Палявание – без рызыкі



**Валоданне асабістай зброяй накладвае на паляўнічага асаблівую адказнасць. Зброя з'яўляецца крыніцай павышанай небяспекі. Бестурботнасць пры звароце з ёй часта прыводзіць да непапраўных наступстваў.**

■ **Валерый Катовіч,** *старшы дзяржаўны інспектар глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Так, увечары 26 жніўня ля вёскі Баравікі Пружанскага раёна жыхар райцэнтра і яго таварыш з вёскі Руднікі праводзілі незаконнае паляванне. Абодва палявалі з незарэгістраванымі стрэльбамі і сабакамі. На кукурузным полі адзін з нелегалаў зрабіў стрэл на шоргат і трапіў у напарніка – той атрымаў смяротнае раненне.

У Маларыцкім раёне загінуў жыхар Брэста. Мужчына прыехаў парыбачыць разам з бацькам і дачкой на раку Асіпаўка каля вёскі Малыя Дарапеевічы. У нейкі момант ён адышоў ад кампаніі і апынуўся ў чароце. У гэты час паблізу знаходзіўся паляўнічы. Паводле папярэдняй версіі ён зрабіў стрэл – шрот трапіў у шыю рыбака, мужчына зваліўся ў ваду і загінуў. З месца здарэння паляўнічы з'ехаў, затрымалі яго ўжо па месцы жыхарства ў Брэсце. Зараз вядзецца следства.

Часта няшчасныя выпадкі адбываюцца менавіта падчас нелегальных паляванняў. Бо, ігнаруючы правілы здабычы звера, браканьеры ў рэшце рэшт грэбуюць і правіламі бяспекі.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя лічыць сваім абавязкам яшчэ раз нагадаць аматарам палявання, што правілы тэхнікі бяспекі пры правядзенні палявання напісаныя не для таго, каб абмежаваць паляўнічых у нейкіх дзеяннях, а для таго, каб звесці на мінімум рызыку атрымання калецтваў або яшчэ горш – смерць. Прынцыпы бяспечных паводзінаў на паляванні адлюстраваны ў главе 12 Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання.

Нагадваем асноўныя з іх.

Адпраўляючыся на паляванне, варта старанна агледзець і праверыць зброю, прыбраць з ствала (ствалоў) лішнюю змазку, ліквідаваць магчымыя дэфекты, праверыць надзейнасць дзеяння засцерагальніка. Праверыць усе патроны, пры неабходнасці правесці іх каліброўку. Не рэкамендуецца ўжываць патроны са скончаным тэрмінам прыдатнасці і патроны, на металічнай частцы якіх або на паверхні капсуля з'явіліся прыкметы іржы.

**Асноўныя правілы бяспекі на паляванні:**

**забараняецца:**

■ выкарыстоўваць паляўнічую зброю, якая мае тэхнічныя няспраўнасці;

■ ужываць патроны, якія не адпавядаюць дадзенай паляўнічай зброі;

■ ажыццяўляць пасадку ў транспартны сродак і высадку з яго з зараджанай паляўнічай зброяй;

■ даставаць сабраную паляўнічую зброю за ствол (ствалы) з лодкі, воза, санак або іншага транспартнага сродку;

■ ажыццяўляць стральбу на шум, шоргат, па няясна бачнай цэлі, у тумане, у моцны снегапад, у прыцемках, супраць сонца і пры іншых умовах дрэннай бачнасці, а таксама па ўзлятаючай птушцы, ніжэй за 2,5 метры ва ўмовах абмежаванай бачнасці;

■ ажыццяўляць стральбу і знаходзіцца з зараджанай паляўнічай зброяй на адлегласці менш за 200 метраў ад крайняга будынка населенага пункта;

■ ажыццяўляць стральбу ў напрамку людзей, населеных пунктаў, сельскагаспадарчых жывёл, транспартных сродкаў з агнястрэльнай гладкаствольнай паляўнічай зброі на адлегласці менш за 500 метраў да іх і з агнястрэльнай паляўнічай зброі з наразным ствалом – менш за 2 кіламетры;

■ накіроўваць паляўнічую зброю, у тым ліку незараджаную, на чалавека, хатніх жывёл або месца іх размяшчэння;

■ без неабходнасці рабіць стрэл, узводзіць курок курковай зброі або здымаць з засцерагальніка ўнутрыкурковую зброю;

■ ажыццяўляць стральбу з лодкі праз весляроў або іншых паляўнічых, якія знаходзяцца ў лодцы;

■ дабіваць прыкладам зброі параненую паляўнічую жывёлу.

Паляўнічая зброя павінна быць разраджана пры:

● пераадоленні на паляванні розных перашкод (равоў, платоў, бураломаў і іншых), пераходзе па кладках праз рэчкі, ручаі;

● пераездзе з аднаго загону ў іншы, перад пасадкай у транспартны сродак;

● падыходзе да месца прывалу і збору;

● сустрэчы са службовымі асобамі органаў паляўнічага кантролю, унутраных спраў, а таксама службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, якія ажыццяўляюць ахову паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях.

Паляўнічы можа ажыццяўляць стральбу толькі папярэдне пераканаўшыся ў тым, што ў напрамку стрэлу няма людзей або хатніх сельскагаспадарчых жывёл!

Паважаныя паляўнічыя, выконвайце правілы і ўдалага ўсім палявання.

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 8972302, МТС 8905528, МТС 2494549, МТС 6456678.**

# Вось такая дарагая рыбка

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя сістэматычна інфармуе грамадзян аб пакараннях, што выносяцца парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства, і вось чарговыя прыклады.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

5 ліпеня 2016 года суд Пастаўскага раёна разгледзеў крымінальную справу ў дачыненні да двух жыхароў г. Паставы: Філончык Ю.А. і Кеўліч С.А. па ч.4 арт. 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (незаконная здабыча рыбы).

29 траўня 2016 года грамадзяне Філончык і Кеўліч у перыяд часу з 22[00] да 22[30] ажыццявілі здабычу рыбы ў пратоцы, якая злучае возера Задзеўскае і возера Думбля Пастаўскага раёна з дапамогай брадніка саматужнага вырабу, у перыяд вясновай забароны, пры гэтым здабылі дзвесце восемдзесят чатыры асобіны рыбы. Шкода, прычыненая навакольнаму прыроднаму асяроддзю склала 53 676 000 рублёў (да дэнамінацыі). Прысуд – адзін год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на адзін год і штраф у памеры 60 базавых велічынь для кожнага. Вось такая дарагая рыбка.

30 траўня бягучага года ў перыяд вясновага нерасту жыхар г. Паставы грамадзянін Асіненка А.П. выцягнуў з вады стаўную сетку, якая з'яўляецца забароненай прыладай рыбалоўства, сетка дадзенаму грамадзяніну не належыла, але адказнасць за гэта прадугледжаная. Раённы суд вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 5 базавых велічынь або 105 рублёў.

27 жніўня гэтага года каля 7 гадзін раніцы супрацоўнікі міжраённай інспекцыі, якія былі ў форменным абмундзіраванні, святлоадбівальнай камізэльцы, з жазлом, на службовым аўтамабілі, абсталяваным спецсігналамі, маячком і гукавой сірэнай, паспрабавалі спыніць для праверкі аўтамашыну Пежо, аднак кіроўца парушыў п.9.1 Правілаў дарожнага руху, праігнараваў патрабаванні аб спыненні і паспрабаваў уцячы. Пасля нядоўгачасовага пераследу аўтамашына была затрыманая, падчас разбору кіроўца паводзіў сябе з выклікам і адказаў, што спыняецца толькі перад супрацоўнікамі АДАІ і больш ні перад кім. Пасля тлумачэння патрабаванняў ПДР на кіроўцу быў складзены адміністрацыйны пратакол за непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы, матэрыялы накіраваныя ў раённы суд.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі заклікаюць вадзіцеляў выконваць патрабаванні Правілаў дарожнага руху.

Гэта толькі маленькая частка прыкладаў пакарання парушальнікаў, і за кожным з гэтых выпадкаў стаіць лёс чалавека, сям'і, але чалавек сам каваль свайго шчасця. Чалавек, які свядома ідзе на парушэнне закона, заслугоўвае самага строгага пакарання.

**Аб усіх вядомых фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць на тэлефоны: 8-02156-2-86-70 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).**




**Канфіскаваныя ў браканьераў сеткі ў Лёзненскім раёне.**

*Здымак з сайта інспекцыі.*

# Асноўныя моманты ахоўнай дзейнасці ў сучасных рэаліях




**Многія прадпрыемствы, арганізацыі, установы і прыватныя ўласнікі выкарыстоўваюць штатных вартаўнікоў і ведамасную ахову для забеспячэння бяспекі і захаванасці маёмасці.**

■ **В. Белы,** *старшы інспектар ліцэнзійна-кантрольнай групы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі*

Пры гэтым нярэдка не падазраючы, што парушаюць закон, ажыццяўляюць ахоўную дзейнасць без наяўнасці спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) на ахоўную дзейнасць.

Згодна з арт. 23 Закона ад 08.11.2006 года №175-З "Аб ахоўнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь" (далей – Закон) арганізацыі маюць права ажыццяўляць ахоўную дзейнасць сіламі работнікаў аховы, у тым ліку стварыць для гэтых мэтаў падраздзяленні аховы. Пры гэтым у адпаведнасці з арт. 9 Закона такая дзейнасць ажыццяўляецца на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ахоўную дзейнасць.

Такім чынам, калі прадпрыемства ахоўвае вартаўнік або іншыя работнікі, якія ажыццяўляюць ахоўныя функцыі, атрыманне ліцэнзіі абавязковае. У адваротным выпадку ў дачыненні да юрыдычнай асобы або фізічнай асобы за ажыццяўленне безліцэнзійнай дзейнасці ўпаўнаважанай службовай асобай складаецца адміністратыўны пратакол па арт. 23.57 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь, санкцыі якой прадугледжваюць штраф ад 10 да 100 базавых велічынь. У выпадку, калі ў юрыдычнай асобы маецца ліцэнзія, але было зменена назва юрыдычнай асобы, яе месца размяшчэння, уласнік і да т.п., ліцэнзіят абавязаны звярнуцца ў ліцэнзуючы орган для ўнясення ў ліцэнзію змяненняў і (або) дапаўненняў. Пры рэарганізацыі юрыдычнай асобы ў форме зліцця, пераўтварэння, аддзялення або раздзялення зноў створанае юрыдычная асоба пры намеры ажыццяўляць ліцэнзуемы від дзейнасці рэарганізаванага прадпрыемства абавязана падаць у адпаведны ліцэнзуючы орган заяву з прыкладаннем неабходных дакументаў для выдачы новай ліцэнзіі ва ўстаноўленым парадку.

Пры рэарганізацыі ліцэнзіята – юрыдычнай асобы, якая мае ліцэнзію на ахоўную дзейнасць, у форме выдзялення або далучэння да яе другой юрыдычнай асобы, калі звесткі, што падлягаюць указанню ў ліцэнзіі рэарганізаванай арганізацыі, не змяніліся, такая юрыдычная асоба мае права ажыццяўляць дзейнасць на падставе раней выдадзенай ліцэнзіі.

У выпадку, калі звесткі, што падлягаюць указанню ў ліцэнзіі, змяніліся, рэарганізаваная арганізацыя таксама абавязана ўнесці змяненні і (або) дапаўненні ў ліцэнзію.

Нарадамі міліцыі Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь у начны час за першае паўгоддзе гэтага года правяраўся штосутачна ведамасны вартаўнічы склад у горадзе, на падставе заключаных дагавораў на фізічны маніторынг. Было выяўлена 11 парушэнняў, з іх 3 факты п'янства на працоўным месцы (Глыбоцкі КБА "Навінка", Глыбоцкая ПМК і ТЦСАН "Крыніца"), астатнія парушэнні гэта: адсутнасць вартаўніка на працоўным месцы наогул ці сон работнікаў аховы. Усім кіраўнікам па выяўленых парушэннях былі накіраваныя інфармацыйныя лісты, бо многія кіраўнікі лічаць сваіх работнікаў добрасумленнымі, аднак, як паказвае практыка, народная прыказка "Давярай, але правярай" будзе актуальная яшчэ доўга. Невыкананне патрабаванняў па забеспячэнні на ахоўных аб'ектах штозменнага кантролю за працай вартаўнікоў, а таксама правільнага ажыццяўлення кантрольна-прапускнога рэжыму, прыводзіць да ўчынення крадзяжоў і дробных крадзяжоў таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на аб'ектах аграпрамысловага комплексу і іншых юрыдычных асоб.

**Учыненню крадзяжоў спрыяюць наступныя ўсім вядомыя прычыны:**

■ дрэнная тэхнічная ўмацаванасць аб'ектаў;

■ дрэнныя агароджы, іншы раз замест варотаў нацягнуты шпагат або металічны ланцуг;

■ парушэнні ў штатнай колькасці – ахову аб'екта нярэдка ажыццяўляе ўсяго адзін(!) або "1,5(?)" вартаўнікі, хоць у адпаведнасці з заканадаўствам ахова 15-ці гадзіннага паста (з $17^{00}$ да $08^{00}$, а ў выхадныя і святочныя дні кругласутачна) павінна забяспечвацца не менш як трыма работнікамі аховы;

■ дрэнная матэрыяльна-тэхнічная забяспечанасць вартаўнікоў, парою няма элементарнага ліхтарыка;

■ асабістая недысцыплінаванасць работнікаў вартавой аховы.

Цяпер асабліва востра стаіць задача захаванасці сабранага ўраджаю, ГЗМ, ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў, сельскагаспадарчай тэхнікі. Для правільнай арганізацыі вартаўнічай службы і ў мэтах выканання задач па ахове аб'ектаў ад супрацьпраўных замахаў работнікамі аховы арганізацый (устаноў адукацыі, прадпрыемстваў), якія маюць спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на права ажыццяўлення ахоўнай дзейнасці, забеспячэння асабістай і маёмаснай бяспекі наведвальнікаў і работнікаў аб'ектаў, а таксама ў наш час безліцэнзійнікам, **рэкамендуем:**

■ узмацніць прапускны і ўнутрыаб'ектавы рэжым;

■ інфармаваць наведвальнікаў ахоўнага аб'екта аб неабходнасці праявы пільнасці, у выпадках выяўлення падазроных (безгаспадарных) прадметаў або падазроных асоб, неадкладна апавяшчаць аб дадзеных фактах работнікаў аховы арганізацыі, супрацоўнікаў аддзела ўнутраных спраў;

■ правесці дадатковыя інструктажы з работнікамі аховы па мерах бяспекі і парадку дзеянняў пры выяўленні выбуховых прылад, падазроных (безгаспадарных) і іншых прадметаў, якія прадстаўляюць (або могуць прадстаўляць) небяспеку.

Хочацца спадзявацца і верыць, што кожны кіраўнік прадпрыемства, арганізацыі, установы ці прыватны ўласнік у любой сітуацыі будзе заўсёды заставацца гаспадаром з вялікай літары гэтага слова, і па-гаспадарску, будзе беражліва ставіцца да сваёй і дзяржаўнай маёмасці!

**Ліцэнзуючы орган размешчаны па адрасе г. Глыбокае, вул. Мінская, д.1, Глыбоцкі ТДА МУС Рэспублікі Беларусь, тэлефон для даведак 2-33-63.**

# Запрашаем на эка-этна-фестываль "Эка Лэнд 2016"!

**Мерапрыемства адбудзецца 10-11 верасня ў эка-турыстычным комплексе "Утрына", які знаходзіцца ў вёсцы Маргі Глыбоцкага раёна.**

Што плануецца ў рамках мерапрыемства "Эка Лэнд 2016»?

На тэрыторыі непаўторнага Экскурсійнага комплексу "Утрына" Вас чакае:

● эка-дэгустацыі (мёд, цукеркі, віно, тварог, хлеб, чай і шмат іншага);

● эка-фэшн (паказ экалагічнага адзення);

● майстар-класы па вырабе эка-прадукцыі, кулінарныя майстар-класы;

● майстар-клас па ганчарнай справе, вышыванні, па нарыхтоўцы дроў, па здабыванні агню і інш.);

● лекцыі і семінары пра здаровы лад жыцця;

● фітнес-заняткі, ёга на свежым паветры;

● эка-маркет;

● катанне на хаскі і на конях;

● лазня па-чорнаму;

● экскурсіі па "Утрыне";

● зорны майстар-клас па фігурным наразанні гародніны і садавіны;

● фотазона;

● выступы калектываў з розных куткоў Беларусі;

● дзіцячыя забаўляльныя зоны;

● разнастайныя фуд-зоны (вегетарыянская, сыраежная і інш.), якія будуць працаваць на працягу двух дзён і змогуць здзівіць самага патрабавальнага госця;

● начны air-fest - толькі лепшыя Dj і музычныя калектывы!

Намётавы гарадок і эксклюзіўныя бунгала толькі для гасцей "Эка Лэнд 2016".

**Падрабязная інфармацыя і замова квіткоў па тэлефонах: +375-29-614-13-25, +375-44-758-36-35.**

*Арганізатары*



## МНС інфармуе
**на 06.09.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 464;
Гібель людзей – 47, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 16;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

